*Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 22 (4480)**

17 сакавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

**ПАЛІТКУХНЯ**

## Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «На гэтым – кропка!»

*Палітык распавёў «Народнай Волі», чаму вырашыў зняцца з праймерыз па вылучэнні адзінага дэмакратычнага кандыдата.*



Да апошняга **Павел СЕВЯРЫНЕЦ** быў у лідарах па выніках народнага галасавання, але ўчора ён нечакана заявіў, што больш не збіраецца ўдзельнічаць у выбарах адзінага.

– 16 сакавіка адбылося ключавое пасяджэнне кампаніі, і з майго боку было дзве прапановы, – кажа палітык. – Першая – прыпыніць паездкі па краіне і галасаванне з-за сітуацыі з каранавірусам. Загадзя, яшчэ да сустрэч у Брэсцкай вобласці, мы дамаўляліся, што з гэтай нагоды будзем прымаць рашэнне, але яго так і не прынялі. Хаця нават Расія закрыла мяжу з Беларуссю, і мы бачым, што творыцца ў Еўропе і па ўсім свеце. Відавочна, што і мы павінны былі спыніць усе свае паездкі.

Другая мая прапанова тычылася таго, што неабходна пэўным чынам адрэагаваць на тое, што на нашы сустрэчы сталі масава прыходзіць і галасаваць чыноўнікі з райвыканкамаў. Гэта не забаронена ўмовамі праймерыз, але перш за ўсё трэба было дамагацца масавай яўкі дэмакратаў. А як забяспечыць такую яўку, калі каранавірус? Атрымалася замкнёнае кола, разарваць якое калегі адмовіліся. А значыць, і я больш не бачу для сябе магчымасці браць удзел у выбарах адзінага кандыдата.

**– Якая была аргументацыя ў калег, калі яны прымалі рашэнне працягваць паездкі?**

– Маўляў, каранціну ў краіне няма, людзі прыходзяць на сустрэчы і гэтак далей. Але ў мяне свая пазіцыя. Я заўсёды казаў і кажу, што не трэба каранавірус недаацэньваць. Гэта вельмі сур’ёзная рэч. У бліжэйшыя месяцы ўвогуле не даводзіцца ўсур’ёз казаць пра кампанію па абранні адзінага. Гэта вельмі цяжка, калі наогул магчыма.

І толькі пасля таго, як я заявіў аб сваім выхадзе з кампаніі, яе рада прыняла рашэнне аб прыпыненні з 18 сакавіка па 2 красавіка рэгіянальных паездак кандыдатаў у сувязі з пагрозай распаўсюджвання каранавіруса.

**– Вы даволі ўпэўнена ішлі падчас народнага галасавання на першым месцы і раптам прынялі рашэнне ўсё кінуць. Не шкада?**

– Такія рэчы, як каранавірус, немагчыма прадугледжваць зараней. Калі б эпідэміі не было, я зараз займаўся б тым, што тэлефанаваў бы людзям і запрашаў іх на сустрэчы, каб яны перакрылі галасы райвыканкамаўцаў. Сустрэчы праймерыз ператвараліся б у масавыя акцыі. Зараз гэта немагчыма, таму што эпідэмія.

**– Як вы можаце патлумачыць той факт, што на галасаванне сталі прыходзіць праўладныя чыноўнікі?**

– Ва ўмовах сітуацыі з каранавірусам улада паспрабавала маніпуляваць праймерыз. І годнага адказу на гэта не знайшлі, бо такая сітуацыя раней не прадугледжвалася.

**– Ці працягнеце вы нейкім чынам удзельнічаць у кампаніі па выбары адзінага кандыдата?**

– Не. Я выйшаў з кампаніі і на гэтым – кропка.

**– Якія вашы далейшыя планы?**

– На гэты конт у бліжэйшыя дні зраблю спецыяльную заяву.

**Алесь СІВЫ.**

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**

## Былому міністру сельскай гаспадаркі знойдуць новую працу

Кажучы ўчора пра прычыны замены міністра сельскай гаспадаркі, Аляксандр Лукашэнка патлумачыў, што для гэтай пасады спатрэбіўся больш вопытны ўпраўленец. Што ж, паглядзім, наколькі апраўдае давер прэзідэнта **Іван Крупко**, які многія гады працаваў у Нясвіжскім раёне, а ў апошнія два – у Мінскім.

Што тычыцца ранейшага міністра **Анатоля Хацько**, то ён пяройдзе на іншую работу. “У яго прафесія добрая. У нас у жывёлагадоўлі праблем хапае. Страціць яго ні ў якім разе нельга, трэба прадаставіць работу”, – сказаў А.Лукашэнка.

***ДАСЬЕ***

*__Іван Крупко__ нарадзіўся ў 1974 годзе ў вёсцы Бурлевічы Карэліцкага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут у 1998-м і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Беларусі ў 2007 годзе.*

*Працоўную дзейнасць пачаў у 1998 годзе, быў галоўным заатэхнікам калгаса “Рассвет” у Нясвіжскім раёне. З 2003 года перайшоў у Нясвіжскі райвыканкам, дзе спачатку займаў пасаду начальніка аддзела па арганізацыі вытворчасці і перапрацоўкі прадукцыі ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, а з 2006 года – першага намесніка начальніка ўпраўлення. У 2010-м кіраваў гэтым упраўленнем, быў першым намеснікам старшыні Нясвіжскага райвыканкама. У 2010–2018 гадах узначальваў райвыканкам.*

*Да прызначэння міністрам працаваў старшынёй Мінскага райвыканкама.*

**ТЫМ ЧАСАМ**

**Сяргей Ляўковіч,** які прызначаны першым намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама, раней узначальваў камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні ў сталічным рэгіёне.

Намеснік старшыні Мінаблвыканкама **Аляксандр Кручанаў** да ўчарашняга дня ўзначальваў камітэт па архітэктуры і будаўніцтве Мінскай вобласці.

Новы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама **Юрый Трушчанка** раней працаваў кіраўніком адміністрацыі Савецкага раёна Мінска.

**ПРОТЕСТ**

## Не допустить антиконституционного переворота в России




Российские ученые, писатели, журналисты и юристы подписали открытое письмо, в котором назвали «противоправной, политически и этически неприемлемой» поправку в Конституцию, обнуляющую президентские сроки Владимира Путина. Текст письма опубликовало «Эхо Москвы». По их мнению, поправки принимаются с грубым нарушением определенной Конституцией процедуры, и расценивают это как «антиконституционный переворот».

Они считают, что предложенные поправки противоречат первым двум главам Конституции РФ, гарантирующим права и свободы личности и закрепляющим принципы федерализма, разделения властей, независимости судов и автономности местного самоуправления.

Российские интеллектуалы призвали всех неравнодушных граждан, политических и общественных деятелей предпринять все возможные усилия «для возвращения ситуации к законности и конституционному порядку».

Письмо подписали 357 человек, среди них – ученые, адвокаты и юристы, журналисты, писатели, общественники и деятели культуры.

14 марта Владимир Путин подписал закон о поправках в Конституцию. Теперь его должен проверить Конституционный суд. Общероссийское голосование запланировано на 22 апреля.

Ранее депутат Госдумы РФ Валентина Терешкова предложила после принятия поправок обнулить президентские сроки Владимира Путина. Пресс-секретарь президента РФ позже заявил, что исключение делается только для действующего президента и носит разовый характер, а норма об ограничении сроков останется в Конституции РФ.

**ЗАЯВЛЕНИЕ**

## Лидеры четырех стран потребовали привлечь Асада к ответственности

В воскресенье 15 марта Германия, Франция, США и Великобритания выступили с совместным заявлением по Сирии. Режим Асада **«должен быть привлечен к ответственности за совершенные им зверства»**. Военное наступление сирийского режима при поддержке России и Ирана ведёт к дальнейшим страданиям и беспрецедентному гуманитарному кризису, отмечается в документе.

**ОСТРЫЙ ВОПРОС**

## В стране более десяти творческих союзов. Но почему из государственного бюджета получает деньги только один из них – Союз писателей Беларуси, возглавляемый генералом Чергинцом?

| Финансирование Союза писателей Беларуси через госбюджет (по годам) | В рублях (до и после деноминации) | В долларах (дается в эквиваленте на начало каждого года) |
|---|---|---|
| 2007 | 181 млн 744 тыс. | 84.927 |
| 2008 | 241 млн 213 тыс. | 112.192 |
| 2009 | 324 млн 802 тыс. | 147.637 |
| 2010 | 243 млн 359 тыс. | 85.120 |
| 2011 | 421 млн 154 тыс. | 140.384 |
| 2012 | 743 млн 938 тыс. | 89.094 |
| 2013 | 933 млн 234 тыс. | 108.895 |
| 2014 | 1 млрд 555 млн 915 тыс. | 163.436 |
| 2015 | 2 млрд 287 млн 558 тыс. | 192.231 |
| 2016 | 2 млрд 481 млн 521 тыс. | 133.637 |
| 2017 | 286 тыс. 905 руб. | 146.492 |
| 2018 | 297 тыс. 940 руб. | 151.031 |
| 2019 | 340 тыс. 119 руб. | 157.477 |
| 2020 | 362 тыс. 121 руб. | 171.743 |
| **Всего:** | **9 млрд 414 млн 438 тыс. неденоминированных рублей и 1 млн 287 тыс. деноминированных рублей** | **1 млн 884 тыс.** |

***Заметим: в Беларуси не один, а два союза писателей, но, как видим, государство почему-то щедро финансирует только чергинцовский.***

***Что из себя представляет Союз писателей Беларуси, возглавляемый 82-летним генералом, «Народная Воля» постарается рассказать в одном из ближайших номеров.***

**БЛИЦ**

**Олег Гайдукевич, председатель Либерально-демократической партии, депутат, заместитель председателя комиссии Палаты представителей по международным делам:**

– Я как вновь избранный депутат еще не голосовал за бюджет. Но в этом году уже буду принимать участие в работе над бюджетом и обещаю вам внимательно изучить этот вопрос.

**Андрей Савиных, председатель Постоянной комиссии по международным делам Палаты представителей:**

– Интересный вопрос. Может быть, выделение средств именно Союзу писателей Беларуси сложилось исторически? Чтобы подчеркнуть значимость писательского труда для общества? Мне трудно сейчас об этом судить, поскольку я впервые услышал эту информацию от вас. И пока не понятно, кто вносил такие предложения… Конечно, мы с этой информацией будем работать, я прямо сейчас же себе помечаю: финансирование творческих союзов Беларуси. Этот вопрос требует внимательного анализа. Все бюджетные вопросы должны обсуждаться максимально широко, потому что это деньги налогоплательщиков. Они должны расходоваться рачительно, приносить максимальную пользу. Хотя, согласитесь, писательский труд – он важный труд. Но спасибо за информацию. Когда мы будем рассматривать бюджет на следующий год, я обязательно уделю этому вопросу самое пристальное внимание. Причем публичное.

**Глеб Отчик, председатель Белорусского союза художников:**

– Не могу себе представить, почему так: одних государство финансирует, а на других не обращает внимания. Это несправедливо.

**Всеволод Стебурако, заместитель председателя Союза белорусских писателей:**

– Разве это новость – финансирование союза Чергинца? Да, все годы существования Союз писателей Беларуси поддерживало государство. А мы, старейший Союз белорусских писателей, такой поддержки не имеем. Это сделано специально, чтобы мы, не обслуживающие власть, исчезли. И другие общественные организации ничего от государства не имеют. Это, собственно, полная дискриминация.

**Елена Анисим, депутат Палаты представителей Национального собрания VI созыва (с 2016-го по 2019 год):**

– Единственное, что могу сказать: во время голосования за бюджет 2020 года меня не было в Минске, я находилась в командировке в Совете Европы. Мне, конечно, присылали материалы по бюджету по вайберу... Но никто этот вопрос не поднимал, а ведь, оказывается, Союз писателей, возглавляемый Чергинцом, не первый год финансируется!.. Депутаты прошлых созывов никогда не обсуждали это. Мы тоже не проследили…

**Елена Атрашкевич, председатель Белорусского союза композиторов:**

– Нам, конечно, обидно. Мы тоже хотели бы иметь финансовую поддержку со стороны государства. А то существуем, считай, на голом энтузиазме… Ни должность председателя Союза, ни должности заместителей не оплачиваются. Штатных единиц в Союзе вообще нет, и от этого во многом страдает творческая деятельность всего Белорусского союза композиторов.

**Опрашивала Елена МОЛОЧКО.**

**У НУМАР!**

## У Беларусі 36 выпадкаў каранавіруса, 35 з іх у лёгкай форме

У Беларусі зарэгістравана 36 лабараторна пацверджаных выпадкаў каранавіруса, паведаміла ў панядзелак Міністэрства аховы здароўя.

На ўчарашні дзень у Беларусі COVID-19 выяўлены ў пяці студэнтаў БДУ, у якіх папярэдні тэст даў станоўчы вынік на COVID-19, паўторны аналіз пацвердзіў наяўнасць РНК віруса. Аднак ні ў кога з іх клінічных праяў хваробы няма.

За выхадныя зарэгістраваны станоўчыя тэсты ў чатырох грамадзян Беларусі, што прыбылі з Мюнхена, Амстэрдама і Масквы. Усе пацыенты былі ізаляваны ў момант вяртання з-за мяжы. Іх найбліжэйшыя кантакты таксама ўжо шпіталізаваны.

Такім чынам, у Рэспубліцы Беларусь на ўчарашнюю дату было зарэгістравана 36 пацыентаў са станоўчым лабараторным тэстам на наяўнасць РНК каранавіруса. Тры пацыенты выпісаны, трое рыхтуюцца да выпіскі. У васьмі маюцца мінімальныя прыкметы інфекцыйнага працэсу, праводзіцца неабходная тэрапія згодна з зацверджанай інструкцыяй. Адзін з пацыентаў знаходзіцца ў стане сярэдняй ступені цяжкасці са станоўчай дынамікай. У астатніх пацыентаў прыкмет інфекцыйнага працэсу няма.

За перадапошнія суткі выканана даследаванне на каранавірус 950 узораў. Усяго з пачатку лютага спецыялісты РНПЦ эпідэміялогіі і мікрабіялогіі правялі больш за 16 тысяч тэстаў на COVID-19.

КАДРЫ

## У добры шлях!

*Учора А.Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні.*

Прызначыў:

**Крупко Івана Іванавіча** – міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання;

**Субоціна Аляксандра Міхайлавіча** – памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – інспектарам па Магілёўскай вобласці;

**Калініна Анатоля Мікалаевіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова.

Даў згоду на прызначэнне:

**Гарадзецкага Дзмітрыя Мікалаевіча** – намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама;

**Ляўковіча Сяргея Віктаравіча** – першым намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама;

**Кручанава Аляксандра Уладзіміравіча** – намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама;

**Трушчанкі Юрыя Уладзіміравіча** – намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама;

**Палуяна Міхаіла Мікалаевіча** – старшынёй Баранавіцкага райвыканкама;

**Бацэнкі Міхаіла Леанідавіча** – старшынёй Маларыцкага райвыканкама;

**Унуковіч Галіны Уладзіміраўны** – старшынёй Бешанковіцкага райвыканкама;

**Каваленкі Алега Анатольевіча** – старшынёй Докшыцкага райвыканкама;

**Мароза Ігара Аляксандравіча** – старшынёй Сенненскага райвыканкама;

**Садоўскага Андрэя Уладзіміравіча** – старшынёй Дзятлаўскага райвыканкама;

**Вярсоцкага Аляксандра Людвігавіча** – старшынёй Свіслацкага райвыканкама;

**Юргевіча Уладзіміра Іосіфавіча** – старшынёй Мінскага райвыканкама;

**Ратомскага Андрэя Казіміравіча** – старшынёй Смалявіцкага райвыканкама;

**Сухадольскага Аляксандра Мікалаевіча** – старшынёй Бабруйскага райвыканкама;

**Трушкіна Аляксандра Леанідавіча** – старшынёй Краснапольскага райвыканкама;

**Куксянкова Міхаіла Мікалаевіча** – старшынёй Хоцімскага райвыканкама;

**Міхеенка Аляксандры Мікалаеўны** – старшынёй Чэрыкаўскага райвыканкама;

**Шашка Дзмітрыя Тадэвушавіча** – кіраўніком адміністрацыі Першамайскага раёна Мінска;

**Хільмана Сяргея Анатольевіча** – кіраўніком адміністрацыі Савецкага раёна Мінска;

**Страздзіна Дзмітрыя Ігаравіча** – генеральным дырэктарам вытворча-гандлёвага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Белмедтэхніка»;

**Богдан Алены Леанідаўны** – намеснікам міністра аховы здароўя;

**Грамады Валерыя Іванавіча** – намеснікам міністра культуры;

**Гадзяцкага Уладзіміра Уладзіміравіча** – старшынёй Камітэта дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласці;

**Мельнікава Аляксандра Кузьміча** – членам Гомельскага аблвыканкама;

**Шчаковіча Аляксандра Уладзіміравіча** – членам Мінскага гарвыканкама.

# СВЕТ ПЕРАЖЫВАЕ ТРЫВОЖНЫЯ ДНІ

STOP!

## На беларуска-польскай мяжы




Польшча спрабуе абараніцца ад каранавіруса як толькі можа. З суседнімі краінамі спынены чыгуначныя і авіязносіны. На дзесяць дзён апушчаны шлагбаумы ў пунктах пропуску легкавушак. А дальнабойшчыкі стаяць у вялікіх-вялікіх чэргах. Затрымка з-за таго, што вадзіцелям неабходна прайсці першаснае медыцынскае абследаванне, пасля якога ўсе яны адпраўяцца на 14-дзённы каранцін.

**На фота: чэргі фур працягнуліся на дзесяць і больш кіламетраў.**

## Расія закрывае граніцу з Беларуссю для перамяшчэння людзей

Расія прыняла рашэнне аб закрыцці граніцы з Беларуссю для перамяшчэння людзей. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Расіі Міхаіл Мішусцін.

*«Мы таксама прынялі рашэнне аб закрыцці граніцы з Беларуссю для перамяшчэння людзей, зрабілі шэраг іншых папераджальных крокаў,* – сказаў Міхаіл Мішусцін. – *Мы і далей будзем рабіць усё для абароны нашай краіны ад гэтай новай пагрозы, дзейнічаць на апярэджанне, прымаць вычарпальныя меры, каб не дапусціць у першую чаргу масавага распаўсюджвання каранавіруса».*

Паводле слоў прэм'ера, папераджальныя меры, якія былі прыняты ў Расіі яшчэ ў лютым бягучага года, далі магчымасць сур'ёзна абмежаваць распаўсюджванне каранавіруса ў краіне. *«Мы паслядоўна, у залежнасці ад развіцця пандэміі, закрываем свае граніцы. У першую чаргу мы гэта зрабілі з Кітаем і іншымі краінамі Азіі, якія першыя сутыкнуліся з гэтай пагрозай»,* – сказаў Міхаіл Мішусцін.

Таксама былі абмежаваны авіязносіны з краінамі Еўрасаюза, прыпынены ўезд замежных грамадзян цераз граніцу з Польшчай, Нарвегіяй, адменены чыгуначныя перавозкі з Латвіяй, Малдовай, Украінай. *«Усе цяперашнія абмежаванні намі свядома робяцца для таго, каб пазбегнуць больш жорсткіх мер у будучым»,* – растлумачыў расійскі прэм'ер.

У СОСЕДЕЙ

## В Польше перенесут президентские выборы?

Польша не может исключать вероятности переноса президентских выборов, намеченных на май, из-за пандемии коронавируса. Пока решение по этому поводу не принято.

Об этом заявил заместитель министра внутренних дел **Павел Шефернакер.**

*«Выборы проходят через два месяца. Посмотрим. Ближайшие дни будут ключевыми, и если эта болезнь будет развиваться в Польше, мы будем наблюдать за этим и принимать дальнейшие решения. Сегодня такого решения нет, но это не значит, что оно исключено»,* – сказал Шефернакер.

*«Сегодня никто не думает о выборах, все думают, как остановить эту эпидемию»,* – добавил замминистра.

Правительство Польши заявило в прошедшую пятницу, что закрывает границы для иностранцев.

ТЭМА ДНЯ

## «Адна інфіцыраваная і 33 пад наглядам»

*Якая сітуацыя з каранавірусам на Гродзеншчыне*

На панядзелак 16 сакавіка, паводле афіцыйнай інфармацыі, у Гродзенскім абласным інфекцыйным шпіталі знаходзілася больш за 30 пацыентаў, у тым ліку адна пацыентка, у якой лабараторна пацвердзілі COVID-19, і 32 кантакты першага і другога ўзроўняў. І хаця знешне ўсё выглядае спакойна, падзеі, вакол сітуацыі з каранавірусам у рэгіёне актыўна абмяркоўваюцца. Тым не менш, нягледзячы на тое, што ўсе нашы суседзі ўвялі агульнанацыянальны каранцін, Міністэрства аховы здароўя бачыць панікёраў.

Вось некаторыя падзеі звязаныя з каранавірусам на Гродзеншчыне ў апошнія дні.

– Першы выпадак каранавіруса афіцыйна быў зарэгістраваны ў Гродне 11 сакавіка.

– Ужо праз дзень у горадзе запрацаваў тэлефон, па якім можна атрымаць кансультацыю па эпідэмсітуацыі і мерах прафілактыкі каранавіруса (+375-152-75-53-22, з 8.30 да 17.00), а таксама па аказанні медыцынскай дапамогі 8-0152-43-52-09 (працуе круглыя суткі).

– У Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце перанеслі конкурс і адмянілі заняткі ў тых выпадках, калі ў аўдыторыі збіраецца больш за 100 чалавек. Студэнты не наведваюць шпіталяў, а замест гэтага праводзяцца заняткі ў аўдыторыях.

У Гродзенскім аграрным універсітэце адмовіліся ад удзелу ў міжнароднай канферэнцыі, абмежавалі міжнародныя сувязі.

Ва ўніверсітэце імя Янкі Купалы перанеслі на больш позні тэрмін масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню ўніверсітэта ў фармаце выстаўкі "Адукацыя і кар'ера".

– Упраўленне спорту і турызму прапануе адмяніць у Гродзенскай вобласці да 6 красавіка 2020 года міжнародныя, рэспубліканскія, абласныя, раённыя, гарадскія і іншыя спартыўна-масавыя мерапрыемствы з удзелам дзяцей і падлеткаў да 18 год. Таксама ў гэты ж перыяд адмяняюцца спартыўныя мерапрыемствы і вучэбна-трэніровачныя зборы з удзелам замежных спартсменаў і выезды спартсменаў і каманд з Гродзенскай вобласці для ўдзелу ў міжнародных спаборніцтвах.

– Суседняя з Гродзенскай вобласцю Польшча 13 сакавіка заявіла аб закрыцці межаў у ноч з нядзелі на панядзелак, а ўжо 14 сакавіка падобная інфармацыя прыйшла і з Літвы. Абмежавальныя меры, выкліканыя небяспекай распаўсюджвання каранавіруса, будуць дзейнічаць да асобага распараджэння. У выніку спынены рух цягніка Гродна–Кракаў, а таксама ўсіх аўтобусных маршрутаў з Беларусі ў Польшчу і Літву.

Увечары 14 сакавіка гродзенцы паспрабавалі яшчэ апошні раз з'ездзіць у Беласток на закупы. На аўтамабільным пераходзе "Брузгі–Кузніца Беластоцкая" нават утварылася чарга, але ўжо не болей як з 50 аўтамабіляў, што яўна нязвыкла для выхадных дзён. А на пераходзе "Бераставіца–Баброўнікі" колькасць легкавых аўтамабіляў наогул не перавышала 20.

У нядзелю чарга з легкавых аўтамабіляў на граніцы з Польшчай наогул знікла. Толькі ў чатах, прысвечаных становішчу на пагранпераходах, працягваецца абмеркаванне, ці праўда, што ўжо ніяк нельга выехаць у Польшчу, як вярнуцца ў Беларусь, якая ў суседзяў сітуацыя з каранавірусам.

– Жыхары суседняга з Гродна Беластока сур'ёзна падышлі да абвешчанага ўрадам Польшчы стану эпідэміялагічнай пагрозы. Дзяржаўныя ўстановы, у тым ліку дзіцячыя і навучальныя, зачынены для наведвальнікаў, па магчымасці людзі пераведзены на дыстанцыйную працу.

Паводле дадзеных на 16 сакавіка ў Польшчы зафіксавана больш за сто выпадкаў каранавіруса, тры чалавекі памерлі.

– 14 сакавіка Міністэрства аховы здароўя Беларусі абвергла інфармацыю, выкладзеную ў інтэрнэце гродзенскай блогершай, аб недахопе свабодных ложкаў у гродзенскіх шпіталях на фоне навін аб каранавірусе.

У паведамленні было сказана, што стан пацыентаў, якія шпіталізаваны ў сувязі з каранавірусам у гродзенскі інфекцыйны шпіталь, здавальняючы. У рэзерве, паводле афіцыйнага паведамлення, 86 свабодных месцаў.

Апрача гэтага, у штатным рэжыме працуе Гродзенская ўніверсітэцкая клініка. У ёй 1050 месцаў, з іх 920 заняты, астатнія застаюцца свабоднымі. Прыняць пацыентаў з ліку кантактаў першага ўзроўню гатовы ў стацыянары Гродзенскага абласнога скурвендыспансера: ён разлічаны на 80 коек і знаходзіцца ў рэжыме чакання.

Мінздраў заявіў, што ўсе стацыянары Гродзенскай вобласці гатовы прыняць пацыентаў з падазрэннем на каранавірусную інфекцыю, ёсць дастатковы запас дэзсродкаў, сродкаў індывідуальнай абароны.

– 15 сакавіка на тэлеграм-канале "Гродна Медыя Group" з'явілася інфармацыя аб факце захворвання на каранавірус у Ашмянскай ЦРБ, які нібыта меў месца.

Ва Упраўленні аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама паведамілі, што 12 сакавіка ў інфекцыйнае аддзяленне Ашмянскай ЦРБ шпіталізаваны чатыры супрацоўнікі пункта пропуску "Каменны Лог" для правядзення каранцінных мерапрыемстваў. Яны знаходзіліся ў кантакце з грамадзянінам, якія праехаў праз граніцу і ў якога пазней аказаўся станоўчы аналіз на каранавірус.

У супрацоўнікаў пункта пропуску каранавірус не выяўлены, за імі працягваецца дынамічнае назіранне.

*Стужка навін пастаянна абнаўляецца.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Почему в Беларуси не объявляют карантин?

***Пресс-служба Министерства здравоохранения очень популярно объяснила, почему Беларусь в отличие от других европейских стран не идет на крайние меры и не объявляет карантин в детских садах и других учебных заведениях.***

«В последнее время в социальных сетях и блогосфере возникают панические настроения и критика действий, либо, как многие считают, бездействий, Минздрава по ряду вопросов, – *говорится в официальном сообщении Минздрава.* – В связи с этим Министерство здравоохранения считает необходимым задать нашим оппонентам следующие вопросы:

**1.** Каким образом закрытие границы Республики Беларусь способно гарантированно предотвратить завоз коронавирусной инфекции в нашу страну?

Если ни одно государство мира, которое применило данную меру, не запретило въезд своим гражданам – потому что это невозможно технически и неправильно морально-этически. Все, наверное, забыли, что в настоящий момент из 8 завозных случаев коронавирусной инфекции в нашей стране 7 было выявлено именно у белорусских граждан, возвратившихся на Родину из-за границы. Или мы готовы отказаться от нашей молодежи, которая учится за границей, и других соотечественников и не впустить их домой?

**2.** Какой эффект ожидается от закрытия детских садов и начальной школы? Уже хорошо известно, что дети болеют гораздо реже. А летальных исходов не было выявлено вообще ни одного. Но дети часто болеют другими вирусными инфекциями, подъем заболеваемости которыми мы наблюдаем в данное время. Также известно, что после закрытия дошкольных и школьных учреждений малолетние дети, родители которых, как правило, работают, вряд ли будут одни дома. Скорее всего, они будут находиться под присмотром бабушек и дедушек, с которыми щедро поделятся своими вирусами и микробами. А ведь пожилые люди как раз таки и являются самой уязвимой группой, имеющей самый высокий риск развития тяжелых осложнений вирусных инфекций (грипп, парагрипп, аденовирус, корь, пневмонии) вплоть до летальных исходов.

Создается впечатление, что сторонники данных мер хотят увеличить смертность в старшей возрастной группе и увеличить нагрузку на систему здравоохранения.

**3.** Кто верит, что после прекращения очного обучения в университетах, ссузах, старшей школе учащиеся и студенты будут находиться дома или в общежитии и будут постоянно заниматься образовательным процессом?

Если кто-то в это верит – изучите опыт двух недель дистанционного обучения студентов БНТУ. И, как показывает этот опыт, часть из них разъедется по стране, а основная масса будет активно посещать места общего пользования, устраивать тусовки, «тематические вечера» в общежитиях и тесно общаться между собой.

**4.** Почему независимые журналисты и эксперты, активно пропагандируя отмену массовых мероприятий численностью более 100 человек, собираются на прием, организованный одним из посольств европейской страны в количестве более 300 человек?

После чего активно требуют анализов и обследований на коронавирус без очереди, поскольку у части собравшихся на следующий день повысилась температура и появились признаки инфекции.

**5.** Каким образом проведение дополнительных ограничительных мероприятий заставит наших людей перестать скрывать факты посещения эпиднеблагополучных стран, проходить мимо организованных пунктов санэпидконтроля и перестать врать медицинским работникам об обстоятельствах своего заболевания?

**6.** Что должен сделать Минздрав для того, чтобы люди стали проявлять ответственность за свое здоровье, начали выполнять элементарные нормы безопасности, рекомендованные возвращающимся из-за границы, исполнять нормы личной гигиены и респираторного этикета?

Ведь на сегодняшний день в Беларуси проходит лечение несколько сотен пациентов с воспалением легких и только у одного из них причиной стал коронавирус и позднее обращение. У 64-х заболевание протекает в тяжелой форме, и ни у одного из них нет COVID19, в связи с пневмонией 34 пациентам проводится искусственная вентиляция легких, и у всех у них отсутствует коронавирусная инфекция. Как, кстати, и у того пациента, о смерти которого вчера поспешили сообщить СМИ *(речь идет об известном бизнесмене Николае Мартынове. – **Ред.**)*. Пациент, между прочим, не только жив, но и имеет положительную динамику от лечения и не заражен коронавирусом.

**7.** И основной вопрос. Мы уже не раз приводили цифры пациентов, которые ежедневно проходят лечение либо погибают от онкологических, сердечно-сосудистых и других заболеваний, обусловленных отсутствием заботы о своем здоровье и наличием вредных привычек.

Что необходимо сделать Минздраву, чтобы люди начали заботиться о своем здоровье, оберегать своих пожилых родственников?

Как убедить их даже в обычный период сезонного подъема заболеваемости вирусными инфекциями побольше быть дома, поменьше посещать торговые центры, поликлиники и места массового скопления людей?

Не пытайтесь откупиться от ежедневной заботы о своем организме, как бросивший семью отец, который раз в год покупает детям самую дорогую игрушку. Мир всегда был наполнен факторами риска! И инфекции были, есть и будут, но ведь именно соблюдение принципов гигиены в начале XX века привело к снижению смертности, так вспомните об этих правилах сейчас! Перестаньте паниковать и распространять бредовые слухи! Давайте быть добрее друг к другу! И, главное, вспомните, что в первую очередь сам человек несет ответственность за свое здоровье и свою жизнь и может влиять на здоровье своих близких. И что только при наличии совместных скоординированных действий населения и системы здравоохранения мы можем добиться больших успехов.

Что касается проводимых на сегодняшний момент мероприятий: все пациенты (за исключением одного, поздно обратившегося, состояние которого оценивается как средней степени тяжести с положительной динамикой) находятся в удовлетворительном состоянии. Некоторые из них уже выписаны, часть – готовится к выписке, за остальными продолжается наблюдение, и состояние их здоровья опасений не вызывает».

**Галина РУТ.**

ШТО ХВАЛЮЕ...

## Давайце будзем моцныя!

Мая сяброўка Ларыса Цялегіна жыве ў Італіі, у горадзе Трыесце. Мае сертыфікат нацыянальнага гіда, яе паслугі вельмі запатрабаваны ў рускамоўных турыстаў. Днямі яна змясціла ў "Інстаграме" такі зварот да сваіх падпісчыкаў:

*"Паверце: зараз да вас звяртаецца адзін з самых аптымістычных аптымістаў, хаця, магчыма, вам так не падасца.*

*Мы ў рэгіёне Фрыулі–Венецыя–Джулія ўжо колькі дзён сядзім на каранціне. І мая грамадзянская пазіцыя ўжо не дазваляе мне маўчаць. А яна ў наступным: сёння дапамагчы Італіі я магу толькі тым, што буду заставацца дома.*

*Італьянцы і тыя, хто жыве тут, добра праінфармаваны, і кожны вырашае за сябе. Так, я яшчэ 1 сакавіка вазіла турыстаў у Венецыю і ўвогуле лічыла, што гэта нечы злы жарт, у крайнім выпадку эпідэмія звычайнага грыпу. Сёння я так не думаю. І хачу дапамагчы тым людзям, да якіх гэта хвароба яшчэ толькі ідзе. А яна прыйдзе і ва ўсю Еўропу.*

*Урачы сцвярджаюць: зараз тое, ці пераможам мы ў гэтай сітуацыі, залежыць толькі ад нас. Мы павінны заставацца дома!*

*Калі вы не чалавек сталага веку і ў вас няма хранічных захворванняў, вы маеце шанц перажыць вірус бессімптомна альбо перанесці яго лёгка. Але вы можаце накіраваць свае сілы на абарону іншых людзей – шляхам вашай жа ізаляцыі.*

*Маладыя людзі, не хвалюйцеся за сябе і сваіх дзяцей. Турбуйцеся за сваіх бацькоў і пажылых сваякоў. Няўжо нашы, вашы старыя не вартыя таго, каб іх берагчы?"*

Ведаю, што многія з тых, хто гэта прачытае, скажуць: ну канешне ж, яна там, у Італіі, можа сабе дазволіць сядзець дома, не тое што мы тут! Але я лічу, што Ларыса кажа пра так званыя сацыяльна адказныя паводзіны. І гэта павінна быць перакананнем, грамадзянскай пазіцыяй любога чалавека ў любой краіне!

Дзякуй богу, у нас, па меншай меры пакуль, сітуацыя не такая, як зараз у Італіі! Але, на жаль, вось да чаго мы ў большасці нядздольныя, дык гэта паміж "зрабіць як трэба" і "зрабіць *як мае быць*" выбраць першае. Ці не надышоў час кіравацца думкай "няхай сёння з мяне пасмяюцца, чым я заўтра паплачу"?

На жаль, упэўнена: у нас той, хто занядужыць, хоць раз, але з'ездзіць на працу, пасядзіць у калектыве, зойдзе ў краму. А пра тое, каб такі чалавек надзеў медыцынскую маску, лепей не заікацца – пабіць не паб'е, але абурыцца дакладна. А гэты ж "храбрэц" паставіць пад пагрозу заражэння ўсіх, хто будзе побач, і няважна, гэта ВРВІ, грып або каранавірус.

Разумею, адкуль ногі растуць: сто гадоў гераізм і самаахвярнасць былі справай гонару. На чыім прыкладзе выхоўваліся многія пакаленні маладых людзей? Паўкі Карчагіна. А што такое прыклад? Гэта той вобраз, стаць падобным на які ўсе павінны былі імкнуцца. Такім чынам атрымлівалася, што любы малады чалавек падсвядома ў ідэале бачыў сябе паўсляпым, паўглухім паралітыкам – і тады ён будзе варты ўхвалы і пашаны.

Дык вось сёння, упэўнена, сацыяльна адказныя паводзіны ў тым, каб не праяўляць такі гераізм, а пры першых жа прыкметах захворвання застацца дома і звярнуцца па медыцынскую дапамогу, а не выпраўляць стан зёлкамі-прыпаркамі. Хаця і яны як дапаможны сродак не адпрэчваюцца.

Сёння наша сіла ў тым, каб прызнаць нашу слабасць: апрануць маску, як бы недарэчна пры гэтым мы ні выглядалі, прызнацца сабе, што работа без нас нікуды не дзенецца і не загіне, звярнуцца па дапамогу і паберагчы тых, хто побач. Давайце будзем моцныя!

**Аляксандра ЛОБЗАВА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## І нажніцы парою сыдуць злыдню за зброю

У цэнтры Мінска хлопец уварваўся ў прадуктовую краму, пагражаючы прадавачцы нажніцамі, забраў з касы 60 рублёў і кінуўся наўцёкі.

У краме здарыўся эксцэс,
І жах спазнала крама.
З нажніцамі наперавес
(То зброя ўсё ж таксама)
Заскочыў рабаўнік туды,
Прычым без нейкай маскі.
Пазнаюць? Ат, такой бяды!
Не меў бандзюк апаскі.
Вакол было няшмат людзей,
Дый тыя – маладзіцы.
Ён прадавачцы да грудзей
Паднёс свае нажніцы
І гаркнуў ёй:
– Гані бабло!
Яна амаль самлела,
Бо, мусіць, ёй шкада было,
Што пакрамсае цела.
Зрабіла ўсё, што ён сказаў –
Не марныя пагрозы.
А ў касе – толькі драбяза,
Як кажуць, проста слёзы.
Канешне, хлопцу неўспадоб,
Што ў касе грошай мала.
Аднак жа іх у жменю згроб
І даў адразу драла.
Дадам, што здарыўся эксцэс
Не ў вёсцы, а ў сталіцы.
* * *
Чаму ж у гразь па вушы ўлез,
У рукі ўзяў нажніцы?
Заглыкаў хлопец, не сакрэт,
Тры ці чатыры шклянкі.
А меў бы злыдзень пісталет –
Падаўся б грабіць банкі…

## Жанчыны стогнуць уначы… Чым бедаку дапамагчы?

У сталічнай Кунцаўшчыне на дзвярах пад'езда нехта пачапіў зварот да суседзяў: «Калі ласка, не стагніце так гучна ўвечары і ўночы (датычыцца жанчын). Калі не спыніце стогны і крыкі, змушуся выклікаць міліцыю».

Дзяцюк адзін жыве ў кватэры –
Мядзведзь зімой на лежцы быццам.
Ён мае грошай да халеры,
Але начамі мулка спіцца.
А ўсё чаму? З якой прычыны?
Бо ноч усю (дый вечар цэлы)
Крычаць ад слодычы жанчыны –
Яму чутно ажно праз сцены.
Дзяцюк то зверху чуе крыкі,
То збоку стогны асалоды…
Паўсюль, выходзіць, секс шматлікі,
А ён ляжыць накшталт калоды.
Трываць такое немагчыма,
Таму яму і спіцца мулка.
І ўночы з кругламі вачыма
Ідзе дзяцюк блукаць па вулках.
Каб мукам тым канец пакласці,
Аб'явы вешаў ён на дзверы:
Маўляў суцішце вашы страсці,
Інакш службоўцы прымуць меры.
Ніхто на просьбы не зважае
І не выкавае спагаду –
Пабоку ўсім бяда чужая.
Якую ж можна даць параду?
Каб не сыходзіць ноччу з дому,
Каб для неўрозаў знікла глеба,
Рэцэпт адзін: яму самому
Як найхутчэй жаніцца трэба.
* * *
Было б няблага, каб начамі
Ад жарсці ўсе жанкі крычалі.
Ды толькі, церпячы пабоі,
Часцей крычаць яны ад болю…

## Шчасця не купіш

Шчасце ў краме не купіш як быццам –
Не бывае такога ў жыцці.
Але яхтаю можна разжыцца
І бікіні да яго падплысці…

## Іншакшы каленкор

А як да сексу хлопец-хват
Раней схіляў жанчын-дзяўчат?
Павінен быў спаіць спачатку
І ўжо затым здымаў апратку.
Ды так было…
З надаўніх пор
Зусім іншакшы каленкор:
Адно й сачы, каб маладзіца
У хлам не здолела напіцца.

## Разбаўленая кава

– Ты звычайную каву, цікава,
Каньяком разбаўляеш чаму?
– Доктар раіць, бо моцная кава
Вельмі шкодзіць здароўю майму…

## На языку і на розуме

Працаўнікі бываюць розныя,
Ды трэба знаць кіраўніку:
Што ў падначаленых на розуме –
У звольненых на языку…

СЯМЕЙНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Асуджаны на забыццё

## *Лёс капітана Рэута*




Ён быў першым мужам маёй бабулі па бацьку – Надзеі Данілаўны. Доўгія пошукі дазволілі збольшага даведацца пра яго жыццё. Раскажу пра тое, што вядома дакладна.

Леанард Сігізмундавіч Рэут нарадзіўся ў першай палове 1870-х гадоў у Віцебскай губерні, скончыў Віленскае юнкерскае вучылішча ў 1898 годзе, быў прызначаны падпаручнікам 99-га пяхотнага Івангародскага палка ў 1899 годзе. Напярэдадні руска-японскай вайны, ужо штабс-капітанам, Рэут ажаніўся ў Омску з сястрой міласэрнасці Н.Д.Зяньковіч і разам з ёй пайшоў на вайну. Пасля вайны муж і жонка жылі ў Омску, у іх нарадзіліся два сыны і дачка.

Падчас Першай сусветнай вайны на пачатку Нарачанскай аперацыі капітан Рэут камандаваў 1-м батальёнам 2-га сібірскага стралковага палка 1-й Сібірскай стралковай дывізіі. (Штатная колькасць батальёна – ад 800 да 1000 чалавек.)

У першы дзень аперацыі (5 сакавіка 1916 года па старым стылі) загінула каля 200 афіцэраў і больш за 15.000 салдат рускай арміі. Раніцай 8 сакавіка ля населенага пункта Лясныя Муляры (Пастаўскі раён) капітан Л.С.Рэут пад шквальным кулямётным і ружэйным агнём спрабаваў падняць у атаку залеглую перад калючым дротам зводную роту з байцоў свайго батальёна, ад якога засталося 180 чалавек. Ён быў цяжка паранены і ў хуткім часе памёр у 1-м лазарэце 1-й Сібірскай стралковай дывізіі. Пахавалі яго ў населеным пункце Дунілавічы на мясцовых могілках. На яго магіле быў усталяваны помнік.

За 10 дзён Нарачанскай аперацыі загінула амаль 80.000 салдат і больш за 1000 афіцэраў рускай арміі. Ля Дунілавічаў могілак стала значна болей.

Воінская служба Л.С.Рэута была адзначана мноствам узнагарод; у архівах знайшліся дакладныя звесткі пра ордэны Святой Ганны 2-й ступені і Святога Станіслава 2-й і 3-й ступеняў.

За загінуўшага мужа Надзея Данілаўна атрымлівала ад дзяржавы на сябе і на дзяцей годную пенсію. Новая ўлада пазбавіла яе пенсіі, затое з'явілася кляймо: удава царскага афіцэра. Успамінаць капітана стала небяспечна. Новае жыццё адбілася і на яго дзецях. Памерла дачка. Выхаваць сыноў дапамагло замужжа за былым даручэнцам капітана, маім будучым дзедам, бальшавіком. У самастойным жыцці сыны царскага афіцэра таксама пазбягалі ўспамінаць свайго бацьку і аддалі сваё жыццё за савецкую радзіму на франтах Айчыннай вайны. Памяць пра капітана не захавалі і яго ўнукі і праўнукі.

У другім шлюбе Надзея Данілаўна нарадзіла яшчэ двух сыноў, але дакументы аб першым шлюбе і ўзнагароды Л.С.Рэута захавала. І гэта выратавала ёй жыццё. На пачатку Айчыннай вайны па даносе суседзяў аб тым, што яна жонка камуніста (другі муж) і маці камуніста, афіцэра Савецкай Арміі (старэйшы сын ад другога шлюбу), па яе прыйшлі немцы. Убачыўшы захаваныя пасведчанні і ўзнагароды, не забралі ў камендатуру, а потым вывезлі ў Аўстрыю.

Пасля вайны яна з малодшымі сынамі апынулася ў Мядзелі. Пакуль дазвалялі сілы, яна (употайкі!) ездзіла ў Дунілавічы на магілу першага мужа. У сярэдзіне 1950-х мае стрыечныя браты знайшлі схаваную бабуляй шкатулку з узнагародамі Л.С.Рэута. Іхні бацька тую шкатулку адабраў, і яна знікла назаўсёды. Для яго, камуніста, дырэктара школы, франтавіка, які камандзірам артылерыйскай батарэі прайшоў ад Сталінграда да Берліна, у той час ўзнагароды афіцэра-героя, але ж царскага, маглі стаць сур'ёзным кампраматам.

Адзін з бабуліных унукаў яшчэ пры яе жыцці пачаў служыць на стартавай пляцоўцы касмадрома Байканур, што патрабавала спецыяльнага допуску, і даслужыўся да падпалкоўніка. Яму таксама не варта было помніць пра царскага капітана Л.С.Рэута.

Незадоўга да смерці Надзея Данілаўна загадала сынам усе яе дакументы і фотаздымкі спаліць, каб яны не перашкаджалі ўнукам і праўнукам жыць. І мой бацька, і мой дзядзька, бязлітасна біты жыццём мужыкі ва ўзросце далёка за пяцьдзясят, асцярожна яе не адважыліся. Вось чаму з такімі цяжкасцямі даводзіцца здабываць вестачкі векавой даўніны пра лёс капітана Леанарда Сігізмундавіча Рэута – героя, асуджанага на забыццё.

*P.S.Шчыры дзякуй супрацоўнікам Пастаўскага раённага краязнаўчага музея за ўвагу, разуменне і дапамогу ў пошуках.*

*Нізкі паклон гісторыку і краязнаўцу Аляксандру Іванавічу Кузняцову за дакладную інфармацыю.*

**Міхась ЗАПОЛЬСКІ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Войдите в мое положение…

Я, Римашевский Станислав Францевич, почти 48 лет работаю врачом. Имею I категорию. Со мной был заключен контракт в МСЧ (медсанчасти) завода имени С.И.Вавилова, который должен был закончиться 10 января 2020 года. Меня и семью это устраивало. Однако в феврале 2019 года после 46 лет совместной жизни умерла жена, и я остался один.

С начальником МСЧ договорился о продлении контракта на шесть месяцев – до отпуска. Но заместитель генерального директора Вячеслав Кузнецов потребовал перезаключить контракт на три месяца (все-таки можно продлевать!).

Сейчас я написал очередное заявление на продление контракта, объяснив, что прошел курсы повышения квалификации за счет МСЧ, являюсь врачом I категории, в 2019 году мне была объявлена благодарность за добросовестный труд.

На созванном совещании В.Н.Кузнецов сказал, что надо омолаживать коллектив и у него есть человек на это место. Я ответил, что есть и другие сотрудники моего возраста, а он как депутат и заместитель генерального директора должен знать: законодательством Беларуси возраст для работы «на гражданке» ограничен, кроме некоторых предприятий. Но Кузнецов настаивает на своем: человек уже ждет, а я получаю пенсию. Я сказал, что мне неудобно в 70 лет идти искать в другом месте работу, чтобы освободить должность для его человека (неужели тот врач безработный?).

Исчерпав все аргументы, Кузнецов стал угрожать мне судом: мол, он не говорил, что убирает меня по возрасту из МСЧ, то есть это не одно и то же – «омолаживать коллектив».

Неужели наше законодательство только односторонне трактует контракт – даже если нет замечаний к работнику, администрация может уволить его по окончании контракта? То есть работник никак не защищен: захотел начальник уволить – и ты без работы? Ведь я прошу дать мне возможность поработать в коллективе не год, не два, а всего несколько месяцев, чтобы немного оправиться от своего горя! Ради этого я согласился даже один день в неделю работать бесплатно.

Еще есть время мне помочь до окончания трехмесячного контракта. Очень надеюсь, что руководство завода имени Вавилова прочитает эти строки и войдет в мое положение.

**Станислав Францевич РИМАШЕВСКИЙ.**
*Минск.*

ПРАШУ СЛОВА!

# Не забывайце пра нас, дзяцей вайны

Я – дзіця Другой сусветнай вайны. На жаль, мяне і маіх равеснікаў дзяржава абыходзіць увагай. Мяркую, тыя высокія чыноўнікі, якія распрацоўваюць і прымаюць важныя дакументы, не ведаюць, што такое голад, холад, невыносныя ўмовы жыцця.

Хачу расказаць, як праходзіла наша ваеннае дзяцінства ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці. Усе мужчыны былі або на фронце, або ў партызанах. Каб схавацца ад немцаў, бабулі, матулі, падлеткі, хлопчыкі і дзяўчынкі ў лесе выкапалі зямлянкі. Вось там і жылі. Летам таксяк лес карміў ягадамі, грыбамі, поле і луг давалі нам крапіву, шчаўе, макрыцу, шнітку, канюшыну, лебяду – усё ішло ў ежу. Елі маладыя сасновыя пабегі, мязгу, маладыя лісточкі ліпы, карэнні аера… Крыніца-сястрыца паіла чыстай вадзіцай. Так ратавала нас ад смерці малая радзіма. А зімой нашымі спадарожнікамі былі холад, голад, вошы і тыф. Памерла шмат дзетак.

Фашысты знайшлі наш зямлянечны «гарадок» і ўсіх загналі ў лагер у Кляпцы, дзе быў страшэнны голад. Паміралі і дарослыя, і малалеткі. Не дай Бог бачыць і чуць, як галасілі мацеркі над сваімі канаючымі крывінкамі!

Наша мамачка Рая (царства ёй нябеснае) зберагла мяне і двайнятак (1942 г.н.), але сваё здароўе падарвала так, што ў 37 гадоў пайшла на той свет.

Тых, хто выжыў, вывозілі ў Нямеччыну. Наша група была апошняй. Давезлі да граніцы з Прыбалтыкай, раскідалі па вёсках, бо вайна ішла к канцу і самім немцам трэба было ўцякаць. Так мы не трапілі ў Германію.

Пра «эпапею» нашага жыцця добра ведаў Пётр Міронавіч Машэраў (царства яму нябеснае), стараўся заўсёды дапамагчы сваім расонцам, дбаў пра Беларусь. Таму, напэўна, і быў у няміласці ў Масквы.

Менш як праз два месяцы будзе адзначацца 75-годдзе Вялікай Перамогі. Няўжо мы, дзеці вайны, не адчуем увагу з боку дзяржавы?

**Галіна Іванаўна ДАВЫДАВА.**
*г.Полацк.*

***P.S.*** *Паважаная рэдакцыя, усе супрацоўнікі «Народнай Волі»!*

*Прабачце, што турбую сваім пісьмом. Але надзялілася сваімі думкамі – і на душы лягчэй.*

*Шчыра дзякую за тое, што несяце людзям свет праўды!*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# В роли пасынка

## *При таком подходе государства к образованию нельзя рассчитывать на успешное развитие страны*

Не надо быть пяти пядей во лбу, чтобы понимать: в нашей стране сфера образования не является приоритетной. Так, в 2020 году на образование планируется потратить 1,18 млрд рублей, что составляет 4,64 процента от расходной части госбюджета. На финансирование многочисленных силовых структур тратится значительно больше!

Скудное финансирование образования не позволяет укреплять материально-техническую базу школ, гимназий, лицеев. Решение многих вопросов возложено на руководителей этих учреждений, педагогов и родителей. При том что Конституцией гарантировано бесплатное среднее образование, фактически повсеместно процветает добровольно-принудительная система различных поборов.

Далек от декларированного в Законе об образовании уровень оплаты труда педагогов. По этому показателю «пролетарии интеллектуального труда» остаются в нижней части «турнирной таблицы». Особенно незавидна судьба молодых специалистов, не имеющих ни стажа работы, ни квалификационных категорий и, как следствие, соответствующих надбавок к заработной плате.

И это при том, что из 97,3 тысячи педагогов, работающих в учреждениях общего среднего образования, 93,9 процента имеют диплом вуза! Вызывает сомнение, что с введением с января новой системы оплаты труда бюджетников материальное положение педагогов существенно улучшится. Обычным явлением стало принуждение педагогов к выполнению не свойственных им функций, огромный вал бумаготворчества, неквалифицированный контроль за деятельностью учреждений образования. Разговоров на эту тему много, практические действия по искоренению этих негативных явлений, считай, отсутствуют.

### Куда смотрят профсоюзы?

Для того чтобы держать учителя в страхе и повиновении, введена кабальная контрактная система найма на работу. В этих условиях практически не выполняют свою основную – защитную – функцию огосударственные профсоюзы. Неслучайно в системе общего среднего образования работает лишь 13,6 процента мужчин.

Повысить социальный статус учителей можно через более эффективную мотивацию их труда. К сожалению, этот фактор в нашей стране в последние три десятилетия, мягко говоря, не соответствует духу времени, сути педагогической деятельности, вкладу учителей в решение многих государственных задач. Приведу лишь один пример. 4 июня 1940 года указом Президиума Верховного Совета БССР было учреждено звание «Заслужаны настаўнік Беларускай ССР». В 1966 году этого звания удостоены 333 педагога, в 1967-м – 216, в 1968-м – 511 (БСЭ. – Т.4. – С.513 – 517). В последние 14 лет (2006–2019 гг.) аналогичное звание «Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь» присвоено только 11 педагогам.

### Где найти деньги?

*Во-первых*, нужно перераспределить государственные расходы в пользу социальной сферы, значительно сократив средства на содержание раздутого аппарата государственного управления и многочисленных силовых структур.

*Во-вторых*, не допускать бесконтрольного расходования материально-технических и финансовых ресурсов на строительство, приобретение и содержание объектов не первоочередной значимости. Я считаю, слишком много средств тратится на возведение различных административных зданий, на обеспечение должностных лиц иномарками, шикарными апартаментами. Плохо, что в этом плане отсутствует жесткий общественный контроль.

*В-третьих*, в условиях экономического кризиса вызывает сомнение целесообразность затрат на проведение многих спортивных, культурных и других массовых мероприятий. Яркие примеры: рождественские хоккейные турниры и Вторые европейские игры. А еще парады, базары, дожинки, собрания и т.д.

Прежде чем принимать решение по какому-то мероприятию, налогоплательщики должны знать, во что обойдется каждое из них, кто конкретно понесет расходы.

### Когда начнет работу университет имени Нила Гилевича?

**А**нализируя положение дел в сфере образования, нельзя обойти вниманием ее роль в национально-культурном возрождении. В начале 1990-х росла доля школьников, обучающихся на родном языке. Этому способствовал принятый Закон об образовании, статья 1 которого провозгласила принцип *национально-культурной основы образования*. Осуществлялся планомерный перевод дошкольных учреждений и школ на белорусский язык обучения. Издавались в необходимом количестве учебники, раздаточные и дидактические материалы на родном языке, велась переподготовка кадров. Процесс возрождения родного языка и культуры носил эволюционный характер и не вызывал отторжения общественности. Работая с 1979 по 1996 год в должности заместителя начальника управления образования Брестского облисполкома и курируя вопросы организации учебно-воспитательного процесса, не припомню ни единого случая возникновения конфликтных ситуаций по данному вопросу. Но, как говорят, недолго музыка играла. В итоге за период с 1995 по 2006 год доля белорусскоязычных школьников вернулась к уровню конца 1980-х, а за последующий период сократилась более чем вдвое. Ныне на родном языке обучается лишь 11,1 процента школьников. Свернуты все белорусскоязычные потоки в вузах. Государство не способствует созданию в стране Университета имени Нила Гилевича. Система образования на родном языке государством не популяризируется и в итоге деградирует.

В условиях господства авторитарной системы управления не реализуется на практике закрепленный в Кодексе об образовании принцип «государственно-общественного характера управления образованием» (гл.2, п.1.9), в соответствии с которым реальные права в решении самых различных вопросов жизнедеятельности учебных заведений имели бы педагоги, учащиеся, родители. Не соответствует демократическим принципам управления положение, при котором руководители учебных заведений, и прежде всего ректоры вузов, не избираются, а назначаются в административном порядке.

Нужен ответ на принципиальный вопрос: куда движется национальная система образования, призванная решать задачу взращивания главного богатства страны – ее интеллектуального потенциала? Наша образовательная сфера, включая все ее структуры, находится в глубоком системном кризисе. Многочисленные проблемы не решаются, как в цивилизованных странах, а загоняются в тупик. Даже продолжая двигаться вперед по некоторым направлениям, наше образование всё больше отстает от лучших в мире образовательных систем.

Не осознав этого, не предприняв эффективных мер по исправлению подобного положения, мы потеряем очень много. Задача системы образования триедина: воспитать гражданина, профессионала, семьянина. По каждому из этих направлений в силу различных причин школа на различных ее ступенях не срабатывает надлежащим образом.

Воспитать гражданина – такая цель, как мне кажется, уже и не ставится. В условиях господства в стране страха, лжи, холуйства, безразличия, неразвитого гражданского общества, жестких действий режима по подавлению его основных компонентов достижение этой цели крайне затруднено. Формирует ли ныне белорусская система образования людей думающих, творчески мыслящих, задающих вопросы? Увы, скорее – инертных, принимающих всё на веру, послушных «винтиков» механизма, как в советское время, только худшего качества.

Как ни печально, но у нас отсутствует площадка для обсуждения многочисленных проблем в образовании. В результате нет объективного видения как ближайших, так и отдаленных перспектив развития образовательной сферы, программы и стратегии ее развития. На практике имеем порочный, крайне неэффективный *механизм принятия управленческих решений*. В результате – непоследовательные действия, шараханье, приводящие в конечном итоге к многочисленным негативным явлениям в образовании.

**Николай КОВШ, кандидат педагогических наук.**
*Брест.*

### Об авторе

*Николай Константинович Ковш родился в декабре 1941 года в д.Глуховичи Брагинского района. В 1963 году с отличием окончил физико-математический факультет Мозырского пединститута. Работал учителем физики в сельской школе в Столинском районе, инспектором школ Столинского роно. С декабря 1972 года – инспектор школ Брестского облоно, с декабря 1976-го – заместитель директора областного Института усовершенствования учителей. В 1979–1996 годах работал в должности заместителя начальника управления образования Брестского облисполкома, с апреля 1996-го по сентябрь 2002-го – председателем обкома отраслевого профсоюза. Кандидат педагогических наук. Член Объединенной гражданской партии.*

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Запрашэнне ў рабства

Каб завабіць да сябе турыстаў, многія беларускія гарады займелі ўнікальныя, насамрэч адзінкавыя ў сваім родзе музеі. Скажам, старажытны Полацк можа пахваліцца найцікавейшым Музеем беларускага кнігадрукавання. Адносна маладым Баранавічам як чыгуначнаму вузлу грэх было б не сабраць да купы старыя паравозы – пры мінімальным доглядзе гатовы музей. У Беразіне, што стаіць на аднайменнай рацэ, наведнікаў чакае Музей лыжкі (самая вялікая мае ў даўжыню метраў дваццаць).

Што ж, кожнае сяло хваліць сваё памяло. Прызнацца, падобнага музея я чакаў і ў роднай Зэльве. Напрыклад, даўно «просіцца» стаць музеем хата знакамітай паэткі Ларысы Геніюш.

Але зэльвенскія чыноўнікі чамусьці вырашылі стварыць музей «Білет у СССР». У санаторна-ляснoй школе ўжо выдзелена адпаведнае памяшканне, распрацоўваецца канцэпцыя. Толькі ці варта вынаходзіць веласіпед і надзімаць па-піянерску шчокі? Стваральніцы таго «білета» **Людміле Галаско** я параіў бы з'ездзіць у Маскву – там у Сакольніках ужо даўно дзейнічае музей пад такой жа назвай. І прызначаецца ён для ўсіх тых, хто настальгуе па Савецкім Саюзе.

Ці не з такой жа мэтай збіраюцца музеефікаваць савецкае мінулае і ў Зэльве? Тая ж Людміла Галаско (між іншым, працуе настаўніцай) гаворыць пра гэта не хаваючыся. І выказвае спадзяванне, што з экспанатамі праблем не будзе – ці не ў кожнага зэльвенца на гарышчы або піянерскі горн заваляўся, або партрэт генсека КПСС мышы не даелі, ці радыёпрыёмнік «Сож» да гэтай пары звесткі з фермаў і палёў перадае. Адным словам, дапамажыце, землякі, давайце разам панастальгуем.

Што ж, ахвотна адгукаюся на кліч землякоў аб дапамозе і я. Сёе-тое магу падказаць, сёе-тое – прынесці і пакласці ў экспазіцыю. Але паколькі маё стаўленне да СССР далёкае ад ружовенькай настальгіі, то і піянерскі горн (у які трубіў уласнагубна) на гарышчы я шукаць не збіраюся.

На самым відным месцы ў новастворанаым музеі я павесіў бы лагерную робу той жа Ларысы Геніюш, у якой паэтка восем гадоў кіркавала вечную мерзлату ў Комі АССР. Роба тая захавалася ў надзейным месцы і пры патрэбе магла б наглядна пацвердзіць, якой апраметнай быў той СССР для мільёнаў насельнікаў ГУЛАГу. І змясціў бы на інфармацыйнай шыльдачцы геніюшаўскія радкі: «Крыўда ўзвіваецца полымем, / здаецца, з прадоння пяшчэр. / З пекла ўпала на голаў мне / ўся гэта СССР».

Асобную залу варта аддаць раскулачаным, нацдэмам і другім ворагам народа. Па самых сціплых падліках іх на Зэльвеншчыне было выяўлена і адпраўлена ў Сібір больш за 300 чалавек. І хай бы ў той зале гучаў з магнітафоннай стужкі голас аднаго з нацдэмаў (па сумяшчальцтве яшчэ і польскага шпіёна) – **Серафіма Татарына**. Мой далёкі сваяк, у Заходняй Беларусі ён арганізоўваў гурткі ТБШ, рэдагаваў газету «Наша Праўда». У лагеры яго пазбавілі не толькі здароўя, але і роднай мовы. Да апошніх сваіх дзён былы зэк размаўляў толькі па-руску і хваліў савецкую ўладу.

Не лішнімі былі б у тым музеі і простыя сялянскія шуфель з матыкай-гачкай. На шыльдачках можна было б напісаць: «Гэтым шуфлем 12-гадовыя падлеткі з вёскі Паляжын на зернетаку за ноч перaлапачвалі да дзесяці самазвалаў зерня і атрымлівалі за гэта 1 (адзін!) рубель; а з гэтай матыкай-гачкай праводзілі цэлае лета на бураковым полі, за што ўвосень сям'я атрымлівала мех цукру…

Пералічваць экспанаты для музея «Білет у СССР» я мог бы яшчэ доўга. Толькі ў такім выглядзе ён праўдзіва паказваў бы жыццё савецкіх грамадзян – прыгонных калгаснікаў, затурканай інтэлігенцыі і пазбаўленых радасці дзяцінства падлеткаў. Але, як выглядае, у Зэльве нам збіраюцца паказаць адны дасягненні, падсветленыя лямпачкай Ільіча і ўсмешкай Гагарына.

Помніцца, як адзін з самых папулярных савецкіх кінаакцёраў Леанід Бранявой скрушна заўважыў, што настальгаваць па СССР – тое самае, што сумаваць па пекле. Як чалавек, які чвэрць стагоддзя пражыў у Савецкім Саюзе, я таксама не магу настальгаваць па краіне, дзе мае дзяды і бацькі пеклаваліся на калгасных палях, па сутнасці – былі рабамі. І таму для мяне настальгічны музей «Білет у СССР» (калі ён, крый Божа, з'явіцца) – гэта запрашэнне ў рабства, санкцыянаванае Зэльвенскім райвыканкамам.

Яго маладому кіраўніку **Дзянісу Альшэўскаму**, калі распаўся СССР, было ўсяго сем гадоў…

СІТУАЦЫЯ

## Суседзі прымаюць меры

На перыяд каранціна візавыя цэнтры Літвы і Польшчы ў Мінску прыпынілі прыём дакументаў на афармленне віз.

Літоўскі візавы цэнтр не будзе прымаць дакументы з 16 па 30 сакавіка, польскі – з 17 па 27 сакавіка (з магчымым падаўжэннем тэрміну), паведамляе TUT.by.

Літоўскае пасольства таксама да 30 сакавіка спыніла прыём дакументаў у сувязі з распаўсюджваннем каранавіруса.

Як паведамлялася раней, з 16 сакавіка Літва на два тыдні забараніла ўезд замежнікам. Польшча закрыла мяжу з Беларуссю ў ноч на 15 сакавіка.

СТОП-КРАН

## Прафсаюз РЭП засцерагаецца

У сувязи з каранавірусам супрацоўнікі незалежнага прафсаюза просяць задаваць ім пытанні дыстанцыйна.

*«Мы працягваем сваю дзейнасць па абароне працоўных і сацыяльных правоў грамадзян незалежна ад любых акалічнасцяў,* – кажуць у прафсаюзе. – *Разам з тым, усведамляючы сваю частку адказнасці і клапоцячыся пра здароўе іншых у абставінах распаўсюджвання эпідэміі каранавіруса, прапануем усім максімальна, наколькі гэта магчыма, пазбягаць наведванняў грамадскіх месцаў».*

З гэтай нагоды прафсаюз просіць у выпадку неабходнасці звароту па юрыдычную дапамогу максімальна выкарыстоўваць сродкі дыстанцыйнай камунікацыі: тэлефон, электронную пошту, месенджары.

**Віктар ШПАК.**

ПРАПАНОВА

## Разам адзначыць Дзень Волі!

Сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл аднеслі ў райвыканкам калектыўны зварот з просьбай сумесна адзначыць у Слоніме 102-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Яны прапануюць райвыканкаму арганізаваць і правесці ў раёне шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных абвяшчэнню Беларускай Народнай Рэспублікі: канцэрт, фотавыставу, мітынг, віктарыну, конкурсы, сустрэчы і г.д.

*«Без БНР не было б БССР і сёння не існавала б незалежная дзяржава Рэспубліка Беларусь,* – гаворыцца ў звароце. – *Спадзяёмся, што вы, шчырыя патрыёты нашай Бацькаўшчыны, зробіце ўсё магчымае, каб дадзеную гістарычную і лёсавызначальную падзею шырока адзначыць на раённым узроўні».*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ФУТБОЛ

## Паўфіналісты вызначыліся

*Учора прайшла жараб'ёўка паўфіналаў Кубка Беларусі па футболе.*

У выніку ў ½ фіналу згуляюць «Дынама» (Брэст) і салігорскі «Шахцёр», мазырская «Славія» і барысаўскі БАТЭ.

Першыя матчы павінны адбыцца 8 красавіка.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Почему Беларусь так долго не может вступить в ВТО?

*Беларусь планирует присоединиться к ВТО в конце 2020 года, осталось только достичь договоренности с США и Евросоюзом. О том, почему переговорный процесс затянулся на 27 лет.*




## Штаб-квартира в Женеве

Для Беларуси 2020 год может стать годом вступления в ряды Всемирной торговой организации (ВТО). Путь Беларуси в этот престижный клуб длится уже 27 лет – официальный Минск подал заявку еще в 1993 году, но заметно активизировались переговоры лишь в последние пять лет.

Беларуси членство в ВТО даст выход на новые торговые рынки, повысит инвестиционную привлекательность и, безусловно, улучшит имидж страны на международной арене. Но насколько реально осуществление планов Минска вступить в ВТО в этом году и что мешало сделать это раньше?

## Долгая дорога Беларуси

В феврале 2020 года первый заместитель министра иностранных дел РБ **Андрей Евдоченко** сообщил, что *«двусторонние переговоры по вступлению Беларуси в ВТО должны завершиться к июню, а присоединение к организации возможно в конце 2020-го – начале 2021 года».*

Основная причина того, что Минск подошел к вступлению в ВТО лишь спустя много лет переговоров, – позиция официального Минска, который долго не мог решить, нужно ли и выгодно ли присоединяться к торговой организации.

Директор Центра европейской трансформации **Андрей Егоров** считает, что вопрос о вступлении Беларуси в ВТО можно было решить и раньше. *«Сначала официальный Минск крайне непоследовательно действовал в этом вопросе. Но после 2015 года переговоры активизировались, и сейчас мы наблюдаем позитивную динамику с обеих сторон»,* – говорит политолог.

## ЕАЭС способствует сближению с ВТО?

Интенсивность переговоров в последние пять лет не в последнюю очередь связана с созданием Евразийского экономического союза (ЕАЭС). Так, сайт Министерства экономики Беларуси указывает, что с 2012 года Беларусь и так выполняет большинство правил и условий ВТО, так как они заложены в основу права ЕАЭС. Кроме того, среди пяти стран-членов ЕАЭС Беларусь – единственная, кто еще не присоединился к ВТО. Получается, Минск имеет ряд международных обязательств, а правами члена ВТО не обладает.

Политолог Андрей Егоров говорит, что вступление в ВТО откроет более широкие перспективы выхода на международные рынки и будет способствовать приходу иностранных инвестиций. *«Сейчас европейский рынок закрыт для белорусских товаров, а исполнение норм ВТО откроет туда дорогу»,* – указывает Егоров. Вместе с тем нужно учитывать, что открытие доступа на рынки – процесс взаимный и белорусским товарам также придется на отечественном рынке конкурировать с иностранными.

Беларусь прошла уже больше половины пути к членству в организации. Переговоры в рамках Рабочей группы ведутся по четырем направлениям: по доступу на рынок товаров, по торговле сельскохозяйственной продукцией, по доступу на рынок услуг и по системным вопросам. Правда, Беларусь должна еще успешно завершить двусторонние переговоры, ведь для вступления в организацию нужно согласие каждого из ее 164 участников. Беларуси уже пришлось проводить 25 таких двусторонних переговорных процессов, и почти все они успешно завершены. Впереди еще встречи с представителями США и Евросоюза.

## Беларусь хочет войти в «рыночном» статусе

**Ирина Точицкая**, научный директор минского Исследовательского центра ИПМ, отмечает, что невозможно с точностью утверждать, какие вопросы сейчас обсуждаются и мешают Беларуси присоединиться к ВТО, – ведь это закрытый процесс, о нюансах и деталях которого говорить не принято.

По словам Точицкой, вступлению Беларуси в ВТО во многом мешает сама система белорусской экономики, многие отрасли которой построены на государственной поддержке и регулировании, что не соответствует идеалам Всемирной торговой организации. Поэтому, очевидно, от Беларуси ждут уступок во всем, что касается вмешательства государства в процесс ценообразования, ограничения импорта и экспорта товаров и субсидирования сельского хозяйства.

В комментарии для DW Ирина Точицкая также отметила, что сейчас для Минска очень важно, чтобы Беларусь вошла в ВТО как страна с рыночной экономикой, так как этот статус даст ей право на определенные преференции и позволит национальным производителям на равных конкурировать на международных рынках. В частности, признания Беларуси страной с рыночной экономикой ждут от США – недавно Министерство торговли США запустило соответствующую процедуру.

## Нужно учитывать членство Беларуси в ЕАЭС

Членство Беларуси в ЕАЭС также может создать сложности в переговорном процессе с ВТО. Ирина Точицкая считает, что это требует детального обсуждения: *«В рамках ЕАЭС есть определенные обязательства по таможенным тарифам, и мы должны на переговорах с ВТО это учитывать и максимально остаться в рамках наших обязательств».* Иначе, как говорит эксперт, может возникнуть такая же проблема, как у Казахстана, когда тарифная шкала по некоторым товарам в рамках обязательств ВТО оказалась ниже.

Замминистра иностранных дел РБ Андрей Евдоченко на этот счет отметил, что Беларусь координирует свои позиции с Россией и считает российский рынок приоритетным. *«Пока в наших документах практически не отходим от российских обязательств и нигде ни разу не нарушили таможенный тариф ЕАЭС»,* – добавил он.

Состоится ли в действительности присоединение Беларуси к ВТО в 2020 году, как того желают белорусские власти, прогнозировать сложно, говорит Андрей Егоров. *«С одной стороны, Минск должен выполнить необходимые требования, а с другой – необходимо согласие стран, с которыми Беларусь ведет переговоры, на присоединение к организации»,* – поясняет минский политолог.

*(DW.)*

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

# Остались в живых…

*Военнослужащие в Пуховичском гарнизоне отравились взрывчатым веществом. Этот факт подтвердила одному из сайтов пресс-секретарь Минобороны Наталья Гаврусик.*

*Было госпитализировано 13 военнослужащих. Они, как оказалось, попробовали взрывчатое вещество.*

*У российских саперов есть традиция: во время одного из обрядов они «берут на зуб» взрывчатку. Вот и наши солдаты решили последовать дурному примеру. Хорошо, что остались в живых. Но в госпитале им пришлось пройти не одну процедуру.*




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

